# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 9 (1659) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 28 ЛЮТАГА 1988 г. ЦАНА 12 зл.




ПА РОДНАЙ ЗЯМЛІ. Бранск. Фота М. Гайдука.

## МАЯ ВЁСКА

Я іду, мінаючы ўсё дарогі... Мінуў ўжо лес, аснежаны лугі — а сэрца поўнае трывогі, пры роднай вёсцы думкі ўсе маі. Ужо відаць за ўзгоркам хаты, дрэвы, клуні і хлявы. Чаму стаяць яны пустыя, дзе іхнія гаспадары?..

Скажу я вам пра гэту вёску: там нарадзіўся я і рос, там першы раз сам стаў на ногі, ацэнку школьную прынёс.

І вёска гэта не малая, калісь прыгожая была, а моладзь там як заспявала — старыя слухалі і дзетвара. Цяпер жа вёска апусцела: жывуць старэнькія бацькі, моладзь ў горад паляцела, як птушкі ў цёплыя краі.

... І я пакінуў сваю вёску, паехаў жыць у Беласток, ды часта сніцца мне па начах мой родны, бацькаўскі куток.

Ян Стрышко

## З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК

Вёска Войшкі расселася больш-менш у палавіне дарогі з Беластока ў Бельск у прынараўскай даліне. Трапіў я туды ў першую пятніцу лютага, калі ўсім ужо было вядома, якія будуць новыя цэны.

Сольтыс вёскі Ян Трахімюк з многім не згаджаецца.

— Я вам адкрыта скажу, — заяўляе ён, — што недзе там угары, — ён паказвае пальцам на столь сваёй добра абсталяванай і толькі што разбудаванай драўлянай хаты, — хтосьці не хоча зразумець сялян. Возьмем, для прыкладу, тую ропу. Кожны ж ведае, што зараз вясковая гаспадарка менавіта на ропе трымаецца. Без ропы не заарэш, не пасееш і не сажнеш. То ж нават па тэлебачанню гаварылі, колькі зямлі засталося на зіму незааранай, бо не хапіла ропы. А зіма якая была?! Да самага Ражджаства араць можна было. Бачылі вы, якія чэргі стаялі за ропай пад канец года? А цяпер — адразу падвоілі цану на гаручае! Ропа была па 50 зл. за літр, а стала — па 100 зл.! Нябось, бензін толькі на 60 працэнтаў павысілі! Паны сабе не пакрыўдзяць. Яны ж аўтамабілямі катаюцца! А вугаль — аж на 200 прац.! То ж гэта таксама ў першую чаргу адчуе селянін, бо ў яго і абагравання, і нарыхтоўка кармоў для жывёлы на вугалі адбываецца...

— То ж у лесе столькі буралому псуецца, — паспрабаваў я перапыніць солтысавы нараканні, дарэчы, цалкам апраўданыя.

— А ці ж гэты буралом сам да гаспадара на панадворак завандруе? — адмахнуўся солтыс. — То ж зноў трэба спальваць тую ропу, каб па некалькі дзесяткаў кіламетраў ехаць за дровамі. І аднаму чалавеку не




пад сілу гэтая праца. А ў намочнікі на вёсцы каго зараз знойдзеш? За пяць тысяч не хочуць ісці на днёўку!

— То ж павышаны таксама і цэны скупкі сельскагаспадарчых прадуктаў! — не вытрымаў я.

— Так, толькі параўнайце, як падаражэла тое, што гаспадар прадае, і тое, што вымушаны купіць сам, — не паддаваўся солтыс.

— Ну, малако, для прыкладу, падаражэла ў скупцы на 56,5 прац.

— Толькі пра малако вы мне не кажыце! — ужо цалкам раззлаваўся гаспадар. — Мелі мы тут, у Войшках, свой скандал з малаком, нават міліцыю на расследаванне прыслалі, дык ведаем, што з малаком нашым чаўпецца!

І расказаў ён мне пра тое, як войшкаўскія пастаўшчыкі малака нядаўна зрабілі забастоўку. Абуралі іх пастаянна нізкія класы на малако, а класіфікацыя праводзілася ў Раённай малачарскай спулдзельні ў Беластоку. Мала каму давалі першы клас. Дык войшкаўцы збунтаваліся. Забілі аднойчы дзверы ў злеўні малака. Самі не панеслі і нікога іншага не дапусцілі да злеўні. Учыніўся шум. І як ні дзіўна, нават каровы палепшыліся, сталі даваць чысцейшае малако, бо класіфікацыя раптам павысілася. Горкі вопыт, аднак, застаўся.

— Я купляў кожны год нейкія тры тоны мінеральных угнаенняў, — прадаўжаў свае разважанні Ян Трахімюк. — Цяпер і палавіны гэтага не куплю. Для мяне хопіць і таго, што вырасце на гноі.

І ў гэты момант гаспадыня паставіла перад намі поўную талерку вяндліны ўласнага вырабу і смачны хлеб, які таксама яна сама спякла. Сапраўды, для гаспадароў хопіць, — падумаў я, ахвотна начаставаўшыся і каўбасамі, і бакавінкай, і сальцісонам, ды гэтым хлебам, такім

(Працяг на стар. 6)

## VIII ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Галоўнай тэмай VIII пленарнага пасяджэння Галоўнага праўлення БГКТ, якое адбылося 30 студзеня г.г., былі арганізацыйныя справы. У сувязі з тым, што сакратар ГП Віталій Луба ад 15 студзеня з'яўляецца галоўным рэдактарам „Нівы", Прэзідыум ГП, пасля ажыўленай дыскусіі, даручыў выконваць абавязкі сакратара Аляксандру Іваноўскаму.

Затым дагэтуляшні сакратар ГП Віталій Луба паінфармаваў аб ходзе справаздачна-выбарнай кампаніі. У Сакольскім аддзеле БГКТ яна ўжо закончылася. у Дуброўскім — заканчваецца. У Бельскім і Сямяціцкім — працягваецца, а ў некаторых аддзелах яшчэ не пачалася. Найбольш гурткоў і аддзелаў — у былым Гайнаўскім павеце. Там патрэбна дапамога актывістаў і штатных працаўнікоў ГП БГКТ. Без гэтай дапамогі вясковыя гурткі не паспеюць закончыць справаздачна-выбарную кампанію ў вызначаны тэрмін. г. зн. да канца сакавіка.

У дыскусіі члены ГП звярталі ўвагу на патрэбу ўдасканальваць статут БГКТ. Была выбрана статутовая камісія для падрыхтоўкі паправак. Практыка паказвае, што няма патрэбы ў гуртках БГКТ ствараць рэві-

(Працяг на стар. 7)

## НА мяжы

— 2 —




Як я ўжо сказаў, Язэпа Міруця немцы пусцілі, а яго брат Васіль апынуўся ў турме ў Беластоку. Наколькі мне вядома, сям'я ад яго лістаў не атрымлівала, але час ад часу прыходзілі пасылкі з брудняй бялізнай. Памятаю, як у Міруцёвай хаце паказвалі ўсім нямецкую тоненькую паперку, на якой іголкай былі выкалаты словы: „Хлеб, сланіна, цыбуля, табак". Гэты малюсенькі лісточак знайшла жонка Васіля ў каўнеры кашулі мужа. Калі і дзе быў расстраляны Васіль Міруць, дакладна невядома, аднак быў забіты напэўна і ніколі дамоў не вярнуўся.

Восенню 1942 года ізноў паўтарылася падобная да першай, але яшчэ горшая трагедыя. Зноў паявіліся ў нашай аколіцы немцы. Разам з імі быў другі партызан, які выдаваў тых, хто супрацоўнічаў з партызанамі. У спомненай ужо вёсцы Таніца немцы арыштавалі Міхала Лаўраша, які пакінуў жонку і двух малых сыноў. У Бандарах арыштавалі сына спомненага ўжо Язэпа Міруця Мішу. З Бандароў паехалі немцы ў Рыбакі. Аднак жыхары Рыбакоў ужо ведалі аб тым, што дзеялася ў Таніцы і ў Бандарах. У сувязі з гэтым уцякло з вёскі некалькі чалавек з тых, хто меў кантакты з партызанамі. Выйшлі з вёскі Кастусь Хлябіч, Станіслаў Баршчэўскі і Аляксандр Лаўрашук. У гэты час немцы пад'ехалі пад хату Аляксандра Лаўрашука. Спыталі пра яго і, даведаўшыся, што яго няма дома, загадалі маці, каб пашукала сына. Маці, не падазраваючы драмы, кінулася за вёску і, пабачыўшы пад лясочкам сына, пачала крычаць:

— Сашка! Сашка! Вернісе. Цебе клічут немцы.

Аляксандр Лаўрашук вярнуўся і быў арыштаваны. Таксама быў арыштаваны другі жыхар Рыбакоў, Міхал Кічкайла, які пакінуў жонку і малых дзяцей. Арыштаваных вазілі немцы ў лес, называны ў нас Тарабінкай, дзе знаходзілася партызанская зямлянка. З гэтай зямлянкі забралі акумулятары і нейкія іншыя прылады.

У час гэтай акцыі немцы арыштавалі яшчэ невядомага мне з прозвішча жыхара вёскі Раманава.

Усіх пяцярых арыштаваных немцы завезлі ў Міхалова, дзе змяшчалася сядзіба амсткамісара. На жаль, не ведаю дакладна, ці было нейкае следства, ці абыйшлося без яго. Вядома толькі, што ўсіх арыштаваных вывезлі немцы за Міхалова, расстралялі і кінулі ў яму. Досыць хутка сем'ям дазволілі забраць целы забітых. Целы былі перавезены ў Міхалова і пахаваны ў адной магіле. Асобна быў пахаваны толькі жыхар з Раманава. У маёй хаце захаваўся здымак, які быў зроблены над магілай Мішы Міруця, Аляксандра Лаўрашука, Міхала Лаўраша і Міхала Кічкайлы. Над магілай стаяць усе тыя жыхары Таніцы, Бандароў і Рыбакоў, якія прымалі ўдзел у пахаванні.

Падзеі, звязаныя з апісаным здарэннем мне цяжка было рэканструяваць. Справа ў тым, што я асабіста бачыў толькі момант арышту братоў Васіля і Язэпа Міруцёў. Таму я звяртаўся да іншых. Найбольшую дапамогу аказаў мне Кастусь Хлябіч, якога немцы вывезлі пасля на прымусовыя работы ў Кенігсберг. Аднак удалося яму адтуль вярнуцца і дажыць да сёння. Зразумела, што ў расказаным мною могуць быць недакладнасці.

Як я асабіста адношуся да тых двух партызанаў, праз якіх толькі ў адной маёй аколіцы загінула шэсць нявінных людзей? Мушу прызнацца, што адношуся дваяка. Зразумела, што нельга адобрыць учынак чалавека, які, ратуючы сваё жыццё, пасылае на смерць другога чалавека. Аднак прыходзіць мне ў галаву і такая рэмінісцэнцыя: ці я, жывучы сёння ў дабрабыце, седзячы пры электрыцы ў цёплай варшаўскай кватэры, маю маральнае права судзіць тых, хто ў страшэнных ваенных умовах паступіў так ці гэтак? Хто ведае, што зрабіў бы я, калі б, так як гэта было з Федзькам, з прастрэленымі лёгкімі апынуўся ў нямецкіх лапах? А хто ведае, якім выпрабаванням і мукам быў паддадзены другі партызан-здраднік? Як я павёў бы сябе, калі б мне зрывалі з пальцаў ногці, лілі цэлыя вёдры вады праз нос у лёгкія, падсмажвалі распаленым жалезам? Зразумела, што я і, мабыць, кожны з нас скажа: я паводзіў бы сябе годна!

Можа так, а можа не! Думаючы аб гэтых двух трагічных здарэннях, перш за ўсё агортвае мяне трывога і жах за чалавечнасць у чалавеку, а таксама прага, каб ніколі ў будучым не паявіліся зноў такія ўмовы, якія прымушалі б чалавека стацца жывёлінай.

**Алесь Барскі**

## МІНІСТР РАСПАРАДЗІЎСЯ

Улічыўшы пастулаты нацыянальных таварыстваў, міністр асветы і выхавання падпісаў распараджэнне ад 21 кастрычніка 1987 года аб арганізаванні ў пачатковых і сярэдніх школах навучання роднай мове дзяцей і моладзі беларускай, літоўскай, славацкай і ўкраінскай нацыянальнасцей.

Навучанне роднай мове можа адбывацца ў школах, класах, групах, а таксама ў міжшкольных калектывах вывучэння роднай мовы.

Настаўнік роднай мовы павінен мець адпаведныя педагагічныя кваліфікацыі і беззаганна ведаць мову.

Дазволена ўжо ўводзіць у працэс навучання гісторыі і геаграфіі важнейшыя весткі па гісторыі і геаграфіі нацыянальнага краю. Прапанаваныя педагагічным саветам змены ў праграмах па гісторыі і па геаграфіі падлягаюць зацвярджэнню міністэрствам. Навучанне гэтых прадметаў можа адбывацца толькі на польскай мове.

Інспектарскі нагляд над навучаннем роднай мове, а таксама ўзбагачаных нацыянальнымі момантамі прадметаў гісторыі і геаграфіі павінен адбывацца ў садзеянні з нацыянальнымі таварыствамі.

Дазволена шырокая пазаўрочная педагагічная дзейнасць дзеля пашырэння ведаў вучняў па роднай культуры і гісторыі. Гэтай дзейнасцю трэба зацікаўляць, таксама і бацькоў, што прыдасць большай гармоніі цэлай справе.

Лічба ўрокаў беларускай мовы — чатыры штотыдзень.

Распараджэнне гэтае мае моц ад 1 верасня 1988 г. Страчваюць важнасць усе папярэднія адносныя распараджэнні.

**Янка Зенюк**

## ПРАГРАМА ЯК ПАЧАТАК ТОЛЬКІ

Уведзена новая „Праграма беларускай мовы ў пачатковых школах з дадатковым навучаннем беларускай мовы". У канцы м.г. яна была выдадзена асобнай брашурай тыражом у шэсцьсот экземпляраў. Інстытут школьных праграм папрацаваў, але ці з сэнсам, пакажа практыка: настаўнікі беларускай мовы павінны выказвацца пры ўсякіх нагодах, і на старонках „Нівы" таксама.

Навучанне роднай мове — гэта фундаментальная справа ў фармаванні асобы чалавека. Дае яна яму ўяўленне пра сваю духоўную айчыну, знаёміць з элементамі нацыянальнай культуры, дапамагае займець гістарычную свядомасць, без якой чалавек — не чалавек, а нацыя — не нацыя. Спрыяе пазнанню ўзаемных сувязяў паміж беларусамі і палякамі, што мае капітальнае значэнне ва ўмовах існавання нас як нацыянальнай меншасці ў ПНР.

Рэалізаваць „Праграму беларускай мовы..." не будзе лёгка. Надта не хапае ўсякіх выданняў як дыдактычных сродкаў. І над методыкай давядзецца напрацавацца настаўнікам: усё ж новы матэрыял. Было б зусім добра, калі б метадысты ўстанавілі адначасна пералік гэтых дыдактычных сродкаў, з падзелам, вядома, на паасобныя класы. Тут трэба выкарыстаць штогадовыя выезды групы нашых настаўнікаў у Мінск, дзе яны паглыбляюць свае веды, але і маюць магчымасць узбагаціць школьныя бібліятэкі патрэбнымі выданнямі.

Нельга задоўга чакаць і з падручнікам, у якім павінен быць дадзены агульны нарыс гісторыі беларускага народа і Беларусі, выбраныя моманты з яе, пра якія не можа не ведаць сяк-так культурны беларус. Калі будзе такі падручнік?

**Янка Зенюк**

## З ДРУКУ

### ТРОЙЧЫ БЕЛАРУСЬ!

У пятым нумары ПРОНаўскага тыднёвіка „Odrodzenie" ад 30 студзеня г.г. знаходзім матэрыял, у загалоўку якога аж тройчы „Беларусь, Беларусь, Беларусь". Гэта пераліцытацыя назвы кніжкі „Беларусь, Беларусь" Сакрата Яновіча.

Публікацыя мае характар гутаркі з прафесарам Уладзіславам А. Сэрчыкам, дзеля якой рэдакцыя не пашкадавала амаль цэлае старонкі. Ва ўступе да яе прадстаўнік часопіса робіць даволі шырокую заяву, якую можна перадаць наступнымі словамі: хочам сваім козырам перабіць Сакрата Яновіча, не толькі больш разоў выкрыкваючы імя Беларусі, але і мацней канцэнтруючыся, так сказаць, на польскай Беларусі, на Беласточчыне.

Прафесар Уладзіслаў Сэрчык выразна збянтэжаны сваім няўдалым выступленнем наконт тае ж кніжкі „Беларусь, Беларусь" на старонках беластоцкай газеты „Gazeta Współczesna" ад 17-20 красавіка м.г. У гэты раз ён канцэнтруецца не на асабістых уражаннях, пра якія ўсякае можна падумаць, а на аб'ектыўных з'явах у беларускім жыцці Беластоцкага краю, прыдаючы ім гістарычны кантэкст. Падкрэслівае (услед за праф. Ежы Тамашэўскім) даўно наспеўшую патрэбу грунтоўных навуковых даследаванняў усебаковых аспектаў жыцця нашай нацыянальнай меншасці. Яго галоўны пастулат — утварэнне ў Беластоку Інстытута даследаванняў нацыянальных меншасцей. Сэрчык слушна заўважае, што сужыццё польскага і беларускага грамадстваў на практыцы толькі пачынаецца, далёкае ад нармальнасці, адбываецца ва ўмовах ізаляцыянізму. Вельмі нядобры ўплыў аказвае ў гэтай сферы каталіцызм, асабліва тутэйшы, „крэсавы", якому не ў галаве хаця б ідэя экуменізму, узаемаразумення і пашаны.

Ставіць тэзу: спачатку трэба давесці да сітуацыі, у якой быць беларусам у Беластоку і рэгіёне будзе лічыцца нечым нармальным, звычайным, без неабходнасці нейкай адчайнасці ды ахвярнасці. Без большай ці меншай сенсацыйнасці ў нацыянальна змешаным беластоцкім асяроддзі. Бо дагэтуль толькі палякам быць лічыцца за звычайнае, нармальнае. Пакуль так будзе, не будзе магчымасцей даць пачатак працэсу ўзаемнага набліжэння.

У Сэрчыкавым інтэрв'ю знаходзяцца таксама матывы, з якімі нельга згадзіцца. Між іншым, ставіць ён пад сумненне тое, ці мела месца паланізацыя беларусаў, цяпер і калісьці. Не пярэчыць паланізацыі як такой, але тлумачыць, што не была яна прымусовай, акрамя, быць можа, санацыйных часоў... Ну, Сэрчык мае права так думаць, а мы маем права не прызнаць яму рацыі, хоць ён вучоны гісторык.

На заканчэнне нашага каментарыя варта дадаць і такую заўвагу: „Беларусь, Беларусь" раскалыхала становчае зацікаўленне польскага друку нашымі праблемамі. Адчынілася шкатулка чарадзейная, з якой вынырае Беларусь, пра якую паляк, калі і чуў, дык як пра геаграфічны рэгіён паміж Прыпяццю, Нёманам, Дзвіною і Дняпром, з міцкевічаўскім Наваградкам ды радзівілаўскім Нясвіжам пасярэдзіне...

**(С.Я.)**

# УСЁ ПАД ГАРУ, УСЁ ВЫШЭЙ

27 лістапада 1981 г. адбылося ў Рыбалах (гміна Заблудаў) адкрыццё Вясковага дома культуры. Такім чынам гэтае вялікае беларускае сяло, расцягнутае ўздоўж шашы з Беластока ў Бельск, атрымала матэрыяльную базу для культурна-асветнай працы. Слава Рыбалаў пачала шырыцца, калі нарадзіўся там мастацкі калектыў, вядомы цяпер як „Хлопцы-рыбалоўцы“. Але той першы калектыў быў іншы, мешаны, спявалі і мужчыны і жанчыны. У лютым 1983 г. ён упершыню прыняў удзел у раённым конкурсе „Беларуская песня“ і заняў другое месца, а ў цэнтральным аглядзе — трэцяе месца. Быў гэта добры старт. Летам 1983 г. ГП БГКТ арганізавала над Нарвай у Рыбалах фэст, на якім выступілі беларускія калектывы з Рыбалаў, Кнарыдаў і Дубяжына — існуючыя яшчэ тады „Дубочкі“.

А позняй восенню таго ж года ў Доме культуры адбыўся „стражацкі вечар“ і ў хроніцы культурных імпрэз рыбалаўскага дома культуры запісана пад гэтай датай так: „выступіў вакальны мужчынскі калектыў“. Гэта першае пацвярджэнне нарадзін калектыву, які складаецца з адных толькі мужчын і з'яўляецца адзіным такім калектывам у вялікай колькасці нашых калектываў. Мужчынскі рыбалаўскі калектыў пачаў і працуе дагэтуль пад патранатам Акруговага праўлення пажарных каманд у Беластоку і большасць яго спевакоў — пажарнікі. Вельмі добрую работу зрабіла Лідзія Мартынюк, якая пачала весці хроніку. Вось хто спяваў ранняй вясной 1984 года ў мужчынскім калектыве ў Рыбалах: Мікалай Ігнацюк, Пётр Мартынюк, Уладзімір Супрунюк, Уладзімір Цалпінскі, Віктар Мартынюк, Віктар Давідзюк, Дзямян Лукашук. У красавіку 1984 года мужчынскі калектыў рыбалаўскіх пажарнікаў заняў першае месца ў цэнтральным аглядзе беларускай песні і не аддае яго дагэтуль. Іх песні пачалі гучаць на розных імпрэзах і ўсе слухачы загаварылі пра „хлопцаў-рыбалоўцаў“.

Ад пачатку рыбалаўскія мужчыны былі ахвотныя ездзіць і выступаць са сваімі песнямі, абменьвацца вопытам і навязваць кантакты з іншымі беларускімі калектывамі. Пасведчанне гэтаму даў калектыў „Згодныя макі“ з Райска, які напісаў: „Наведалі вёску Рыбалы ў гадавіну вызвалення яе савецкімі войскамі... Каб ніколі больш вайны!“ Так пачалася дружба калектываў.

На пачатку 1986 года зноў чытаю падзяку „Згодных макаў“ „за прыемную сустрэчу калектываў з беларускай песняю“, якая адбылася ў Рыбалах і сталася вялікім святам беларускай песні для ўсяе ваколіцы.

Рыбалаўскі калектыў пачаў праціраць шляхі да новых культурных вяршынь у беларускай дзейнасці. Тут упершыню над шумлівай Нарвай-ракой у чэрвені 1986 г. Валянціна Ласкевіч, дзеяч БГКТ, сама родам з Рыбалаў, разам з рыбалаўскім актывам адрадзіла адну з найпрыгажэйшых старонак беларускай народнай традыцыі — Ноч Купалы. Гэтую назву Ліда запісала ў сваёй хроніцы вялікімі каляровымі літарамі, інфармуючы, што на гэтым свяце выступілі беларускія мастацкія калектывы з Гайнаўкі, Гарадка, Бельска, два з Беластока і, зразумела, з Рыбалаў. Гэтая першая Ноч Купалы праславілася на ўсю Беласточчыну, а ў 1987 годзе адбылося ўжо шэсць ці сем начаў Купалы ў розных закутках нашай зямлі. Гэтыя аўтэнтычныя народныя, радасныя і поўныя чароўнай красы гульні заслугоўваюць самай вялікай падтрымкі з боку Беларускага таварыства, Ваяводскага дома культуры і ваяводскіх культурных улад.

Рыбалаўскі калектыў у адным толькі 1986 годзе выступаў 14 разоў і пабываў у наступных мясцовасцях: Заблудаў, Беласток, Дарожкі, Мілейчыцы, Чыжы, Вярхлессе і, зразумела, выступаў у сябе, у Рыбалах.

1987 год пачаўся іх канцэртам у лютым з нагоды гадавіны Савецкай Арміі і ад гэтага часу бесперабойным шэсцем праз раённы агляд беларускай песні дайшоў да цэнтральнага агляду і канцэрту лаўрэатаў у Беластоку, на якім ад імя Ваяводскага праўлення ОСП была ўручана ім узнагарода-падзяка за расслаўленне песняй пажарніцкай ідэі. У маі калектыў прыняў удзел у конкурсе пажарніцкай песні ў Сямяцічах, заваяваў першае месца (спявалі яны там, між іншым, сваю песню на словы і мелодыю Мікалая Ігнацюка „Чорная хмара“) і цяпер толькі — у 1988 годзе рыхтуюцца ехаць на цэнтральны агляд.

За 1987 г. хлопцы-рыбалоўцы далі 17 канцэртаў у Заблудаве, Кнарыдах, Сямяцічах, Бельску, Нарве, Сопаце, Рафалоўцы, Плёсках, Рыбалах.

Новы 1988 год пачалі з сапраўдным мужчынскім „стражацкім боем“. Ужо ў студзені далі канцэрты ў Бельску, Сакольцы і Вярхлессі, а ў лютым — у Беластоку з нагоды гадавіны Савецкай Арміі.

**Вера Валкавыцкая**
**Фота С. Грыняўіцкага**






## ЯК Я КАЧКУ КУПІЎ

Я ўжо пісаў аб тым, як аднойчы купіў яйкі ў Махнатым, заплаціўшы за паўтара кілаграма, а яек было паўтара фунта. Ну, бо жанчына важыла на старадаўнім бязмене. Гаспадыня была вельмі кемлівая, бо, калі толькі я ўвайшоў у яе хату, адразу зразумела, што мае дачыненне з балдою. Зважыла шаснаццаць курыных яек і сказала, што гэта паўтара кілаграма. Я толькі цяпер магу сабе ўявіць, як яна рагатала, калі я пайшоў з хаты.

Мая жонка доўга мела аб чым расказваць сваім сяброўкам і чым мне дапячы, калі хацеў нечым пахваліцца, але з хаты не гнала...

Прайшло крыху часу, есці далей трэба. Пайшоў я на рынак па нейкую гуску ці качку, бо ў чарзе стаяць часу не хапае. Яновіч і так верашчыць на мяне, што я нічога не чытаю. Бо каб пісаць, гаворыць, то найперш трэба чытаць. Я яму не веру, бо, па-мойму, каб пісаць, то трэба думаць, а не чытанае „зрэзваць“, але як яго пераканаеш, калі ён такім спосабам намахляваў ужо пятнаццаць кніжак?! Але, да справы.

Бачу, стаіць ля прылаўка жанчына, а ў яе паміж нагамі дрэмле белая качка, увапхнутая ў торбу з бульбай і булачкамі.

— Качку прадаеце?

— Няўжо ж прынесла яе напаказ? Прадаю...

— Колькі цэніце?

— Ат, ужо апошняя, аддам танней.

— Ну, тады колькі?

— Ці я ведаю, колькі з вас узяць?

Хіба жанчына пашкадавала мяне, бо аніяк не магла вымавіць цану.

— Яна ў мяне яшчэ нясецца, але ж патрэбны грошы. Прадам, калі дасце больш, чым іншыя давалі, бо тут ужо прыцаняліся дзве жанчыны...

— Прадайце мне, бо не маю часу ў чэргах стаяць.

— Дзве.

— Што, дзве?

— Ну, за качку дзве!

— Штооо? А паўтары не ласка?

— Ого, бачце, які разумнік знайшоўся! Ужо 1800 давалі!

Думаю: „Буду таргавацца, мо за тысячу шэсцьсот аддасць“. А тут раптам падыходзяць дзве жанчыны і даюць за качку 1900. Аднак „зычлівая“ прадаўшчыца гаворыць ім, што я быў першы.

— Які ён першы, што тут чарга?!

— Не гарлапань, баба, бо той пан быў першы!

— Мяне так знервавалі тыя спекулянткі, што аж глотку заткала. Адлічыў я тысячу дзевяцьсот пяцьдзесят і рады, што жанчына згаджаецца, папрасіў, каб качку загарнула ў газету. Калі ж я азірнуўся, то ўбачыў, што жанчыны дружна рагаталі. „Ну і добра, што хаця не пабіліся з-за мяне“, — уцешыўся я і,

(Працяг на стар. 6)

## НАША ПОШТА

**Мікалай Панфілюк, Дубічы Царкоўныя.** Мы тут у рэдакцыі са здзіўленнем прачыталі вашу карэспандэнцыю, у якой абураецеся на публікацыю „Святыя жылі сярод нас“, змешчаную ў „Ніве“ ад 31 студзеня г.г. Кастусь Каліноўскі для вас — гэта палітычны лайдак і „мяцежнік“. Вораг беларусаў. Ашуканец. А ўсё гэта ўзялі вы з царскай кніжачкі „Борьба православного народа за веру и народность Западной Руси“. Яна, гэтая кніжачка, аўтарытэт для вас. Вам нават няважны сапраўдны царскі гісторык В. Ратч, якому і ў галаву не прыходзіла зняважліва гаварыць пра Кастуся Каліноўскага (глядзі: „Занатоўкі з Англіі“ ў тым жа нумары „Нівы“). Ратч не пэцкаўся прапагандай і паспалітым самадурствам тыпу „Борьба православного народа...“ Ці не падумалі вы, чаму цар расійскі правёў ліквідацыю паншчыны і чаму ў гэтую ліквідацыю стварыў найлепшыя варункі менавіта польскаму мужыку, горшыя трохі — беларускаму і зусім кепскія свайму, рускаму, халопу? Не падумалі вы, чаму той жа цар расійскі паланізаваў — так, паланізаваў! — беларусаў, дапускаючы ў Беларусі толькі польскія школы, арганізуючы толькі з палякаў адміністрацыю, уводзячы польскую вайсковую службу — т.зв. Літоўскі корпус — у рамках расійскай арміі, якая стацыянавала на захад ад лініі Дняпра? І так было амаль паўвеку пасля падзелаў даўняй Польшчы.

Дапамагаць з адказамі на гэтыя пытанні на гэты раз мы вам не будзем, бо, закацеўшы, лёгка знойдзеце іх самі ў вашай багатай хатняй бібліятэцы.

**Антон Кабац, Новэ.** Выпісаць „Ніву“ знаёмаму ці сваяку ў БССР вы можаце. Для гэтага трэба вам пайсці ў адміністрацыю папулярнага „Руху“, дзе ладуць вам запоўніць адпаведны бланк („Ніва“ знаходзіцца ў каталогу часопісаў для падпіскі за мяжу).

„Беларускі каляндар на 1988 год“ вы зможаце атрымаць, паслаўшы такую просьбу ў Беларускае таварыства. Яго адрас: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego, Białystok, ul. Warszawska 11.

**Міхась Куптэль, Сопат.** Разумеем вашы добразычлівыя намеры, прапануючы „Ніве“ друкаваць урыўкі з паэмы „Пан Тадэвуш“ Адама Міцкевіча дзеля паказу і беларускай глебы, на якой вырас польскі эпас. Аднак наша „Ніва“ — малая тыднёвая газета. Нам бракуе месца, каб у свой час змясціць жыццёва важныя публікацыі на тэму нашых праблем, у іх ліку і літаратурнага руху. Передрукоўваць „Пана Тадэвуша“ не будзем. Зразумейце: невялікі быў бы сэнс рабіць гэта! (ся)

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

9—11 сакавіка г.г. у Спартыўным клубе „Cracovia“, што ў Кракаве на вул. Ліпнёвага маніфеста № 27, адбудзецца, ужо 64-ты ў гэтым горадзе, кніжны аўкцыён. Звяртаем ніўскім бібліяфілам увагу на наступныя пазіцыі:

Poz. 121 — (Chłapowski K.), Wojna na Litwie w roku 1831, Kraków 1913, cena wywoławcza 1 tys. zł.

Poz. 162 — (Czaplicki W.), Moskiewskie na Litwie rządy 1863—1869, Kraków 1869, c.w. 2 tys. zł.

Poz. 274 — Gloger Z., Albumy etnograficzne, W-wa 1904, c.w. 2 tys. zł.

Poz. 278 — Gobeliny wileńskie, ich pochodzenie, wartość i losy, Cz. I—II, Wilno 1933, c.w. 1,8 tys. zł.

Poz. 293 — Grabowski T., Z dziejów literatury unicko-prawosławnej w Polsce 1630—1700, Poznań 1922, c.w. 500 zł.

Poz. 313 — Gusty F., Historya Kościoła ruskiego, t. 1—2, Kraków 1857—58, c.w. 3 tys. zł.

Poz. 373 — Iwaszkiewicz J., Litwa w roku 1812, Kraków—W-wa 1912, c.w. 2,5 tys. zł.

Poz. 489 — (Kossak E.), Odpowiedź na historyę „o unii kościoła grec. kat. ruskiego” przez ks. M. Malinowskiego (...) w 1862 r. wydaną, napisaną przez Prawdoluba, Rusina 1863 r., Lwów 1863, c.w. 400 zł.

Poz. 573 — Lelewel J., Dzieje Litwy i Rusi aż do unji z Polską w Lublinie 1569 zawartej..., Poznań, c.w. 8 tys. zł.

Poz. 621 — Łopalewski T., Między Niemnem a Dźwiną, Ziemia Wileńska i Nowogródzka, Poznań b.r.w., c.w. 12 tys. zł.

Poz. 717 —. Morelowski M., Zarys sztuki wileńskiej z przewodnikiem po zabytkach między Niemnem a Dźwiną, Wilno 1939, c.w. 3 tys. zł.

Poz. 731 — Nagrodzki Z., Rola duchowieństwa katolickiego w godzinie prób i cierpień na terenach Litwy i Białorusi (1863—1883), Wilno 1935, c.w. 800 zł.

Poz. 765 — Niemyska M., Wychodźcy po powrocie do kraju, Remigranci w województwie białostockiem w świetle ankiety 1934 roku, W-wa 1936, c.w. 800 zł.

Poz. 812 — Ossendowski F.A. Puszcze polskie, Poznań (1936), c.w. 6 tys. zł.

Poz. 871 — Pojezierze Augustowsko-Suwalskie, Przewodnik krajoznawczy i turystyczno-letniskowy, Augustów 1937, c.w. 800 zł.

Poz. 1019 — Sprawa brzeska 1930—32 (Akta procesu), Katowice 1932, c.w. 1,6 tys. zł.

Poz. 1022 — Srokowski K., Sprawa narodowościowa na kresach wschodnich, Kraków 1924, c.w. 500 zł.

Poz. 1323 — Jarocki P.F., Pisma rozmaite wierszem i prozą, t. 1—2, W-wa 1830, c.w. 2,5 tys. zł (zawiera m.in. „O puszczy Białowiezkiey i o celnieyszych w niey zwierzętach”).

Poz. 1633 — Mappa generalna Gubernii Grodzieńskiey i Obwodu Białostockiego, 345x350, Peterburg 1829, c.w. 6 tys. zł.

Poz. 1864 — Rocznik Ziem Wschodnich i kalendarz na rok 1937, W-wa 1936, c.w. 3 tys. zł.

Poz. 1865 — Rocznik Ziem Wschodnich, 1938, W-wa, c.w. 1,4 tys. zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. У заказах, кіраваных па адрасу: Antykwariat Naukowy, ul. Sławkowska 10, 31-014 Kraków, неабходна падаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, загаловак і найбольшую суму грошай, якую заказваючы можа заплаціць за кніжку, карту ці гадавік.

**Пятрусь Байко**

## Афарызмы

### ДУМКА НЕПІСЬМЕННАГА

Чаго ж людзі прыходзяць на
свет, падобны да матолаў,
Што трэба іх пасылаць вучыць
у школу?..

**Іосіф Карпюк**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Сямяцічы. Брама на былых яўрэйскіх могілках. Мал. Ул. Петрука.*

## ДЗЕ ДРУЖНЫЯ ЎСЕ

Зараз у **Нараўчанскай** гміне добрыя, роўныя дарогі, шмат з іх пакрыта асфальтам. На працягу апошніх некалькіх гадоў жыхары шматлікіх нараўчанскіх вёсак у грамадскім пачыне пабудавалі арыгінальныя густоўныя драўляныя пачакальні на аўтобусных прыстанках ПКС. Усіх іх восем (навюсенькіх!), у тым ліку ў **Масеве, Ляшуках, Скупаве, Плянце, Новым Ляўкове** і **Старым Ляўкове** (на здымку). Цяпер, чакаючы аўтобуса, ёсць дзе схавацца ад халоднага ветру і снежнай завірухі.

У пабудове пачакальняў і ў рамонце мясцовых дарог вялікая заслуга начальніка гміны **Мікалая Павільча**. У многіх выпадках ён быў ініцыятарам грамадскіх пачынаў, дапамагаў здабыць усе неабходныя будаўнічыя матэрыялы, умела заахвочваў да добраахвотнай працы для дабра ўсіх. Жыхары гміны асабліва цэняць яго за настойлівасць у давядзенні справы да канца.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**



### „ЧОРТАВЫ ВАРОТЫ“

Дарогу каля вёскі Рудуты называлі „Чортавы вароты“. Даўжыня яе прыблізна каля аднаго кіламетра — ад вёскі да асфальтоўкі з Орлі ў Дубічы. У „Чортавых варотах“ не так даўно тапіліся ўсе тыя, хто адважыўся праехаць сюдою возам, роварам, матацыклам, ці нейкім іншым спосабам. Кляцьба ўзнімалася аж да нябёсаў! „Чортавы вароты“ рамантавалі, але рабілі гэта якіясьці разлезы, пэцкалі работу і толку не было відаць.

Нарэшце зроблены парадак з „Чортавымі варотамі“: пасыпалі дарогу акуратным жвірам, пакапалі равы ў адхонах, а насупраць кожнага хутара пабудавалі масток цераз роў абочыны. Рудутцы так пастараліся, і Арлянская гміна ім дапамагла, і „жонд“.

І цяпер „Чортавы вароты“ засталіся толькі назваю, значэнне якой забудуць маладыя, як пазабывалі і мы значэнне назваў многіх урочышчаў.

**Мікалай Панфілюк**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Цяжка не здзівіцца, як падчас міжусобнай разні паміж Кейстутавічамі і Альгердавічамі, праз дымячыя пажарышчы ды над усланымі трупамі пабоішчамі, прабіўся гэты светлы прамень чулых пачуццяў, вялікага і шчырага кахання.

Трагічны лёс княжыча Генрыха — сына князя мазавецкага Земавіта — хваляваў не толькі сярэднявечных храністаў, да яго звярталіся таксама пісьменнікі пазнейшых часоў, між іншым, Шэкспір і Сянкевіч, не прамінуў успомніць таксама і Ясеніца. Таму мы абмяжуемся толькі кароценькай згадкай, бо княжычавы крокі пакінулі след і на нашым „Шляху гадоў“.

Ужо прыход у 1366 на свет Генрыха аказаўся жахлівы. Яго маткай была шлёнская княжна Людміла, з якой ажаніўся ўдавец князь раўскі Земавіт Тройданавіч (1326—1381). Хоць маладому падыходзіла пад сорак, але ён у сваю сама меней удвая маладзейшую жоначку закахаўся без памяці, як шаснаццацігадовы юнак. І не дзіва: храністы падаюць, што княгіня Людміла вызначалася незвычайнай красою. Земавітава не па гадах шалёнае каханне сустрэлася з узаемнасцю, і старажытныя муры тагачаснай Равы датуль не памяталі, каб калі-небудзь княжую пару злучала такое шчырае і моцнае пачуццё. Калі княгіня зацяжарыла, князь быў у сёмым небе. Аднак таго толькі і чакалі нядобразычліўцы. Па княству раптам папаўзлі пагалоскі, што княгіня не ад мужа дзіцяці спадзяецца, а ад прыстойнага маладзенькага рыцара, княжага любімца.




Неўзабаве чуткі дайшлі да княжых вушэй. Земавіт азвярэў. Не пераканалі яго ні жончыны заклінанні ў нявіннасці, ні прысяга рыцара ў вернасці. Князь загадаў жонку замкнуць у склепе, а ўяўнага яе каханка прывязаць да конскіх хвастоў ды цягаць па ўсёй Раве, потым павесіць. Праз некалькі месяцаў пасля нараджэння сына Земавіт распарадзіўся задушыць жонку, а дзіця аддаць на выхаванне сялянцы.

Несамавіты лёс княгіні Людмілы, яе дзіцяці і княжацкага любімчыка-рыцара спачатку ўразіў княжацкія ды каралеўскія двары суседніх і нават адлеглых краін, але хутка пачаў забывацца. Аднак пра няшчаснае дзіцяня не забыла сястра нябожчыцы, паморская княгіня Малгажата. Нанятыя ёю людзі патаемна ўкралі Генрыха і яна, схаваўшы яго ў надзейным месцы, занялася выхаваннем хлопчыка. Бацька не надта распачаў па страце сына, нават пачаў забываць пра яго.

Плылі год за годам і ў адзін дзень раптам з'явілася ў плоцкім замку з шыкарнай світай княгіня Малгажата з хлопчыкам, як дзве кроплі вады падобным да князя Земавіта...

Можна ўявіць сабе роспач князя. Паданне кажа, што да самай смерці ён не мог сабе выбачыць свайго злачынства і публічна задаваў сабе цяжкія пакуты: бічаваўся, хадзіў босы ў рубішча, на каленях поўзаў навокал жончынай грабніцы... Каб адкупіць сваю віну перад сынам, паклапаціўся пра яго адукацыю і забяспечыў яму бесклапотную будучыню, накіраваўшы на духоўнага і прызначыўшы на біскупа плоцкага.

З элегантнымі манерамі, адукаваны і па маці прыстойны айцец Генрых адразу стаў аздо-

ВЯРТАЕМСЯ ДА НАРОДНАГА

# СУКЕНКА З АРНАМЕНТАМ

Колькі яшчэ скарбаў хаваюць старыя, памятаючы даўнія часы, бабуліны і прабабуліны куфэркі! Доўгія гады прадметы звычайнага ўжытку, часта творы мастацкага народнага рукадзелля, недаацэньваліся, трактаваліся хутчэй як памятная рэч па дарагім чалавеку. І толькі ў некаторых дамах засталася традыцыя прыбіраць найбольшы пакой хаты пад вялікія святы ўсім цудоўным, што вычаравала жаночая рука. На покуце — найпрыгажэй вышыты ручнік з багатымі ручной работы карункамі, на стале — багата расшыты ці вымеражаны накрухмалены абрус з выбеленага на сонцы ільну, а колішні ложак, засцелены паверху саматканай плахтай, надзімаўся аж пад столь пярынамі, вялізнымі і малымі падушкамі ў вышываных ці прыбраных карунковымі ўстаўкамі навалачках. На падлозе — саматканыя ходнікі.



Ёсць яшчэ такія хаты. Не так даўно гасціла я ў Тыневічах, у Марыі Ваўранюк, якраз у такой хаце. Да сустрэчы з ёй мы яшчэ вернемся. А нядаўна пазнаёмілася я з такім домам у Беластоку. Гаспадыня яго, Зіна Іванюк, расклала перада мною ўсё, што знайшла пад рукою з прадметаў хатняга абіходу ўласнай работы. Вось гара розных сурвэтак, вышываных ніткамі і каляровымі тасемкамі, гафтаваных і мярэжаных, робленых шыдэлкам ці з матэрыялу, а толькі абкіданых шыдэлкам. Ёсць тут і блузкі вышываныя, і сукенкі. Нават дываны на канапе і на сценах — уласнай работы і то рознымі тэхнікамі. А найдаражэйшы для Зіны прадмет — вымярэжаны ў дзявочыя гады велізарны абрус, а можа хутчэй пакрывала на ложак, калі хацелася, каб у хаце было ўсё белае.



Любоў да рукадзелля Зіна вынесла з дому, ад маці. Мела яна ў сабе нейкую іскрынку да гэтай работы, потым прыйшоў спрыт у руках і мастацкае ўяўленне. Праз усё жыццё пранесла ў сэрцы яна словы бацькі: „Кожны чалавек павінен умець усё сабе зрабіць сам". Сёння гэтыя словы могуць многім здавацца нежыццёвымі — усё ж можна купіць, абы грошы былі! Але ў тыя часы, на пачатку нашага стагоддзя людзі былі багатыя тым, што самі ўмелі: хто ўмеў, той і меў. Ды і сёння залатыя рукі ў нас у цане. Такі падыход да жыцця, ахвота ўсяму навучыцца, а потым уменне і вопыт давалі ёй хлеб на ўсё нялёгкае жыццё.

Не адно пакаленне дзяўчат навучыла Зіна трымаць іголку. Ды і сёння яшчэ знаёмыя дзяўчаткі прыбягаюць па параду, як найпрыгажэй звязаць модны світарок, выгафтаваць ці вышыць сукенку. А ў Зіны багатая калекцыя розных фасонаў, узораў, якія яна заўсёды з ахвотай усім пазычае. Сама ж любіць сабе нешта прыдумаць уласнае, непаўторнае. Пару гадоў назад пашыла Зіна сабе модную сукенку на лета з блакітнага ільну ды вышыла яе чырвона-чорнымі ніткамі. Выкарыстала ўкладзены ёю ўзор крыжыкам, але вышыла яго гладдзю. З прыемнасцю носіць гэтую сукенку ў цёплыя дні, тым больш, што і суседкам, і сяброўкам такая сукенка таксама падабаецца. Прыгадвае нешта даўнейшае, можа маладосць, а адначасова модная і ўпрыгожвае жанчыну!

Зіна прапануе чытачкам прыгледзецца і паспрабаваць зрабіць нешта падобнае. На здымках: Зіна з моднай вышыванай сукенкай і ўзор крыжыкам, якім сукенка вышыта.

Тэкст і фота **Я. Чэрнякевіч**

---

бай застолляў і гульняў у княжацкіх і каралеўскіх замках. Прытым выявіліся і яго не абыякія дыпламатычныя здольнасці.

Першае спатканне Генрыха з князёўнай Рынгалай Кейстутаўнай, роднай сястрой Вітаўта, адбылося, мабыць, на двары князя плоцкага Земавіта, увосень 1389 г., падчас другіх уцёкаў князя Вітаўта з бацькаўшчыны, спачатку да князя чэрскага Януша, а потым у Земавітаў Плоцк. Як памятаем (адрэзак „Бунт", „Ніва" ад 20.XII. 1987 г.), у плоцкім замку Вітаўт са сваёй світай знаходзіўся некалькі месяцаў, адтуль ён вёў перагаворы са стрыечнымі братамі каралём польскім Ягайлам і вялікім князем літоўскім Скіргайлам, а таксама вялікім магістрам крыжацкага Ордэна Валенродам. Хронікі маўчаць пра тое, але з усяго відаць, што Генрых адыграў актыўную ролю ў спробе пагадзіць Вітаўта з Альгердавічамі, ездзіў ад яго імя ў Кракаў і Вільню, але безвынікова. Праводзіў ён, відаць, Кейстутавіча і яго світу аж у Мальбарк, як прадстаўнік і брат князёў мазавецкіх выконваў, пэўна, якіясьці важныя даручэнні, якія пасадзейнічалі прыхільнаму прыняццю знакамітых перабежчыкаў з Вялікага княства Літоўскага. Маладзенькі святар пастараўся ўвайсці ў давер крыжакоў, і на прывіслянскім гасцінцы з Плоцка ў далёкі Квідзынь, дзе крыжакі пасялілі Вітаўта з яго світай, стаў ён паяўляцца на коні ў суправаджэнні ўсяго некалькіх слугаў. Усё ж гэта толькі дзеля адной-адзінай княжны Рынгалы, да якой запалаў Генрых незвычайнай моцы каханнем.

Аднак вялікая палітыка не лічыцца з чалавечымі пачуццямі, яна пазбаўлена якой-колечы сентыментальнасці. Кароль Уладзіслаў Ягайла і яго дарадчыкі прыйшлі да вываду, што ўзброенае змаганне з Вітаўтам можа зацягнуцца на доўгія гады і апрача знішчэння, а то і зняволення крыжакамі ўсяго Вялікага княства Літоўскага, нічога добрага не дасць. Таму неабходна бунтарнага Кейстутавіча перацягнуць на свой бок. Вядома, да гэтай надзвычай небяспечнай і прытым далікатнай місіі найлепш падыходзіў... біскуп Генрых. Шмат было прычын, якія схілілі яго прыняць гэту ролю, але адна была найважнейшая — каханак як найхутчэй імкнуўся злучыцца са сваёй каханай нягледзячы на ўсялякія пагрозы і перашкоды.

Патаемныя перагаворы не зацягнуліся. Іх змест даволі трапна перадае „Хроніка Быхаўца", чытаем у ёй, што кароль звярнуўся да Вітаўта са словамі: „Не губі болей тае зямлі... бацькаўшчыны свае і нашае, пайдзі, брат, да нас на згоду і ў вялікую любоў братнюю. Вазьмі сабе вялікае княжанне ў Вільні, пасад вялікага дзядзькі свайго Альгерда і бацькі свайго вялікага князя Кейстута". Тое Вітаўту толькі і трэба было, і ён пачаў рыхтавацца да чарговай — ужо апошняй — свае здрады. „І зараз Вітаўт патаемна і непрыкметна, — піша „Хроніка літоўская і жамойцкая", — выслаў перш за ўсё жонку са скарбамі і хатнім дабром у Жамойцію, у надзейнае месца", а сам з найболей вернымі баярамі падаўся з Квідзыня „ў свой замак Котэрвердэр пад Коўнам. Там нямецкіх купцоў, крыжакоў і рыцараў, якія ў котэрвердэрскім замку жылі, неспадзявана напаўшы, высек, пабіў ды ў Нёман загадаў пакідаць іх целы, а іншых, болей знакамітых, перавязаў ды, запаліўшы „Котэрвердэр", у Вільню з імі паехаў".

У тым часе Генрыху таксама ўдалося вывезці сваю каханую Рынгалу і знікнуць з ёю ў Суражы над Нарвай.

Што ж, не будзем перашкаджаць чытачу ў стварэнні самага рамантычнага малюнку тых чароўных і, на жаль, нямногіх месяцаў, калі каханкі былі разам. Ці то за магутнымі сценамі суражскай крэпасці, ці ў прагулках па ваколіцы прамінулі вясна і лета 1392 года... Што ж, княжыч Генрых не толькі знешне быў падобны да свайго бацькі, у рашучасці паводзін ён таксама ўвесь пайшоў у яго.

Аднак, шчасце каханкаў працягвалася нядоўга. Як толькі сталі вядомы ўцёкі Вітаўта ў Вільню, крыжакі дакапаліся пра ролю біскупа Генрыха ў гэтай здрадзе Кейстутавіча. І, не адкладваючы справы, яны наладзілі паход на Сураж, каб пакараць яго. Горад і крэпасць ім удалося здабыць і спаліць, але каханкаў яны не схапілі. Відаць, нехта Генрыха папярэдзіў, і ён разам з Рынгалай недзе скрыліся. Усё ж помслівая крыжацкая рука дасягнула злачаснага сына Людмілы і Земавіта: нехта падсунуў яму атруту, і княжыч Генрых памёр у страшэнных муках на 26-м годзе свайго жыцця.

Не цяжка ўявіць роспач Рынгалы. Але вялікі яе брат не дазволіў ёй доўга быць самотнай і ў хуткім часе выдаў замуж за малдаўскага гаспадара Аляксандра, вядома, у сваіх палітычных мэтах. Памерла Рынгала ў 1433 годзе.

**Мікола Гайдук**

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Дзіцячы калектыў песні і танца з гайнаўскай школы № 2 прыгожа выступіў у ваяводскім конкурсе савецкай песні і танца для дзяцей „Колеры дружбы". На здымку — калектыў у песні-танцы „Уфо-буфо". Кіруюць калектывам настаўніцы Бажэна Шэлест і Ірына Башун.

Фота Андрэя Урбанскага.

Уладзімір Дубоўка




### ЯК МЯНЕ, МАЛЕНЬКАГА, ТАПІЦЬ МЕЛІСЯ

Славутаму прароку Майсею ні па матчынай, ні па бацькавай лініі я радні не быў. Але, згадваючы першыя дні свайго жыцця, мушу згадаць і прарока. Справа ў тым, што ў біблії пісана, нібыта маленькага Майсея, зусім немаўлятку, паклалі былі ў нейкі абсмалены кош і пусцілі па вадзе. Добрыя людзі былі ва ўсе часы і ва ўсіх народаў. Яны перахапілі той кош, вынялі з яго немаўлятку і назвалі яго Майсеем, што ў перакладзе са старой яўрэйскай мовы і азначае — „выцягнены з вады". Пасля, праз колькі гадоў, атрымаўшы веды, пазнаўшы добра жыццё, Майсей даў чалавецтву запаветы боскія, якія людзі вывучалі на памяць з малых гадоў, але якіх увогуле ніколі не прытрымліваліся. Асабліва часта парушалі людзі запавет пра хлуслівыя сведоцтвы. Але я хачу сказаць не пра гэта.

Нарадзіўшыся на свет, як казала маці мая, я ціхенька ляжаў у калысцы каля самага яе ложка. Яна ж думала: „Трэба жыта жаць. Што рабіць з малым? — Пасля даўмелася: — Прыйдзецца браць у поле. Пакладу яго ў бабку, пад снапы, Там і халадок будзе, і ад мяне блізка, і паветра чыстае..."

У гэты момант расчыніліся дзверы і ў хату закаціліся колькі хлопчыкаў: мой старэйшы брат Ваня, два фельчаравы сыны і трое братоў — дзеці васковага крамніка. Прывалаклі яны вялізныя начоўкі, узяўшы іх аднекуль, бо не нашы. Маці, паводле яе слоў, спачатку расчулілася:

— Ах, якія добрыя хлопчыкі! Гэта ж вы прыцягнулі начоўкі, каб было ў чым купаць нашага маленькага? Дзякую вам, але ў нас ёсць адмысловая балейка...

— Не, — адказаў старэйшы з іх хлопчык, — мы ў гэтых начоўках павязем яго на млын...

— На які млын? — здзівілася маці. — Навошта?

— А каб ён не плакаў, мы яго ўтопім.

З гэтымі словамі яны падышлі да калыскі і пачалі падымаць мяне, каб пакласці ў начоўкі. Пабачыўшы гэта, маці ўскочыла, схапіла ручнік ды пачала іх пытляваць тым ручніком. Такі пачастунак ім не спадабаўся, яны пакінулі свае начоўкі, маці легла зноў на ложак і доўга не магла супакоіцца.

— Тапіць! — паўтарала яна. — Тапіць!..

Што магло б быць, каб маці, скажам, спала, уявіць сабе не цяжка. Пушчаны на ваду, я, зразумела, не стаў бы новым Майсеем, а пайшоў бы на дно ў самым пачатку свайго вандравання...

Хоць будучыя сябры мае не зdroлелі ажыццявіць сваёй задумкі, але яны напрарочылі мне такую вандроўную долю: у сталым веку хвалі насілі мяне на сабе праз усю краіну. Ці шчаслівая яна, гэта мая доля, ці нешчаслівая, я і сам, паклаўшы руку на сэрца, кажу: не ведаю!..

### ПРЫШЫВАНЫ НОС

Мянушкі ў нас давалі малым і старым дужа проста і хутка. Сказаў чалавек дзіўнае для вуха слова — яно і прыліпала да яго адразу. Так жа і мне, зусім малому, браты і суседскія хлопцы падкінулі падарунак — пачалі зваць Прышываным носам. А чаму? Праз нешчаслівы выпадак.

Маці павесіла на тапарышча сякеры мяшэчак з адагрэтым тварагом для сырка, а сама пайшла даваць скаціне есці. Сякера ляжала на лаве, на якой быў і я. Гуляючы, я дапоўз да сякеры і закрануў яе сваімі малымі рукамі. Сякера звалілася, а за ёй і я. Падаючы, яна сваім носам секанула па маім. Палілася кроў.

Ад такой нечаканкі і болю я пачаў моцна плакаць. Пачуўшы, маці прыбегла ў хату, схапіла мяне на рукі і адразу да мясцовага доктара — адзінага нашага медыцынскага працаўніка, бы-

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Нэлі Тулупава

### Лісіца-мудрыца

(небыліцы)

#### ТРЫ ЯЕЧКІ

А Лісіца, а мудрыца
Сама хату мяце,
Сама сенцы мяце,
Паглядзела ў акенца —
Дробны дожджык ідзе.
Паглядзела ў другое —
Салдацікі б'юцца,
За чубы бяруцца.
— Вы не біцеся, салдацікі,
Куплю вам барана.
А ў барана
Кажух драны.
А ў авечкі
Тры яечкі —
У лапухах знайшла авечка.
Цэлы месяц на яечках
Сядзіць бедная авечка,
Прычакала не ягнят,
А маленькіх вужанят.

#### ВОСЬ ЯКІЯ ПІРАГІ

А Лісіца, а мудрыца
Захацела пірагоў.
Замясіла цеста ў дзежцы,
Цеста выйшла з берагоў.
Паднялося ў дзежцы,
Паплыло па сцежцы:
— Я расту, расту, расту! —
Расплывуся на масту
А тым часам наша ліска
З кірмашу дамоў ішла.
І на нітачцы шаўковай
Пеўня дужага вяла.
Пад сабой не чуў ён ног —
Кукарэкаў пра пірог.
А Лісіца, а мудрыца
Знай, нахвальвае сябе
Ды паціху з гарлапана
Пер'е рыжае скубе.
Не дайшлі і да маста, —
А ўжо Певень без хваста.
А як стрэлі волікаў, —
Пеўнічак быў голенькі.
А Лісіца, а мудрыца
На валоў ляціць тыгрыцай.
А валы ні з месца...
Скок Лісіца ў цеста!
І прыліпла да маста
Ад вушэй і да хваста.

#### КОТ ПІЛІП

А Лісіца, а мудрыца
Хоча, бедная, ўтапіцца:
Кот палюе за Лісой,
Не бярэ яго і сон.
Не дае ён палавіць
Малых качанятак.
— Як жа быць і што рабіць?
Ходзіць Кот па пятах.
Пайшла ліска проста ў бор
І знайшла там Мухамор,
Пабяліла малачком:
Ды абмазала мядком:
— Хадзі, мілы коцік,
Паласуй жывоцік!
Кот расперазаўся —
Грыба налізаўся.
Толькі выйшаў на парог,
Пакаціўся на мурог.
А Квактуха:
— Квох ды квох,
Паглядзіце!
Кот наш здох.
Мышаняты хліпаюць, —
Шкода ім Піліпа.

(Працяг на стар. 10)

# КАЗЁЛ-ДЫРЭКТАР

Па просьбе аднаго Асла
У НДІ прызначылі Казла —
Не нейкім там кур'ерам ці дыспетчарам,
А — проста смех і грэх! — дырэктарам.
Казёл на працу ў інстытут з'явіўся,
Усім з усмешкай пакланіўся
І Барану-кадравіку звыштэрмінова
Заданне даў:
— Дакласці дэталёва
Аб кадрах інстытута: хто чым дыша,
Над чым працуе і што піша?
Дазнаўшыся пра ўсіх, ён без аглядкі
У НДІ наводзіць стаў парадкі.
Каб самаму найразумнейшым паказацца
З разумнымі рашыў адразу ж расквітацца:
Ён звольніў Льва, які яго быў намам,
Заместа Льва узяў Гіпапатама.
Вучонаму сакратару Зубру
(дзеля перасцярогі!)
Скамандаваў падрэзаць рогі.
Перашарсціў Казёл па-свойму штат:
Знайшлі ў НДІ прытулак кум і сват,
Дзяцей уладкаваў — і экстранным загадам
Ім даў ён персанальную зарплату.
Сядзеў у крэсле зух самаўлюбёны,
Сваё у НДІ уводзячы законы,
Хто у саавтары яго, нязнайку браў,
Таго ён кожны раз прэміраваў.
Хто заікнецца пра несправядлівасць,
Таму даваў і ў хвост, і ў грыву.
Увёўшы ў практыку падхалімаж,
Свой навуковы папаўняў багаж.
Любімчыкі яго пахвальвалі заўзята
І нават вылучылі ў лаўрэаты.
Ды раптам атрымалася асечка:
Адна пакінутая ім Авечка
(Яна ў яго другой каханкаю была!)
Ад злосці ўсё, каму патрэбна, давяла.
Зляцеў Казёл з дырэктарскай пасады,
Ледзь утрымаўся і яговы памагаты
Асёл, які ад злосці аж кіпеў,
Ды, хоць і позна, зразумеў.
І так сказаў:
— Казліны род
Ў навуку дапускаць страшней, чым у гарод.

**Мікалай Місюк**


— Эй, Кастусь, да цябе дама пік!

# НІЎКА


Сабака — друг чалавека.

## АДРАМАНТАВАЎ

— Учора я адрамантаваў наш сценны гадзіннік з зязюляй, — гаворыць задрыпанец свайму сябру.

— І як? Добра працуе?

— Не зусім. Цяпер зязюля выскаквае праз кожныя паўгадзіны і пытае, якая гадзіна!

## МАЦІ ВАЗЬМІ З САБОЙ

— Алеся, сёння прыходзіў Міхась прасіць тваёй рукі, — гаворыць бацька дачцэ. — Я згадзіўся.

— Ах, тата, як жа я разлучуся з мамай?!

— Не хвалюйся, дачушка! Можаш узяць яе з сабою!

## НЕГАЛАСЛОЎНЫ

Ля нашых „блокаў" на снезе прахожыя дарожку вышліфавалі. Коўзкая. Адолець яе цяжкавата. Вядома, як каму. Каму шанцуе, а хто коўзае, коўзае — гоп! І ляжыць, выбачайце, дагары пятамі.

Адміністратар пасёлка глядзіць на гэта ў акно і запісвае: „... сёмы, восьмы..."

— Навошта вы іх лічыце? — пытае яго памочнік.

— Заўтра на сходзе за гэты балаган дворнікаў лаяць буду. А каб галаслоўным не быць, прывяду свежы прыклад з канкрэтнымі дадзенымі.

## ДВОЙКА

Бацька засмучона:
— Ой як брыдка, што ты атрымаў двойку.
Сын:
— Гэта яшчэ нічога. Большасць класа наогул нічога не атрымала.

Пазнаў сябе па службовай характарыстыцы і захварэў на манію вялікасці.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— І ўсё-такі старая Англія — найлепшая краіна ў свеце, — гаворыць адзін рабочы другому. — Ні табе дыктатараў-марыянетак, ні табе палацовых пераваротаў. У нас дэмакратыя!

— Дэмакратыя? А як ты яе разумееш?

— Ну вось уяві сабе: вяртаешся ты дадому пасля вячэрняй змены. На вуліцы ліе як з вядра, а ты спазніўся на аўтобус і прамок да ніткі. А побач на машыне едзе твой бос. Вось ён спыняецца, падсаджвае цябе і вязе да сябе ў госці. Там ён дазваляе табе высушыць адзежу, корміць раскошнай вячэрай і налівае бакал вытрыманага каньяка... А дождж усё ідзе, і ён дазваляе табе пераначаваць у яго кватэры. Ну, чым табе не дэмакратыя?

— І ўсё гэта было з табою?

— Не, з маёй сястрой.

*

Хуан размаўляе з Педра:

— Ты ведаеш, мы вырашылі купіць машыну і цяпер эканомім на ўсім. Напрыклад, учора мы з жонкай змаглі павячэраць усяго толькі за 90 сентава.

— Падумаеш! — адказвае Педра. — Мы з жонкай тратцім на вячэру па 10 сентава.

— Не можа быць! Як гэта вам удаецца?

— Вельмі проста. Садзімся ў аўтобус і едзем вячэраць да цёшчы, а назад вяртаемся пешком.




З суседскага агародчыка

— Спяшацца не будзем! Патрэбны доказы!

## З „Весніка Задрыпоніі"

### У НАГУ З ЧАСАМ

У г. Ачуцінаве створаны кааператыў адказных работнікаў, знятых з пасады. Кааператары даюць кіруючыя ўказанні, дырэктывы, інструкцыі, цыркуляры і проста жорсткія загады ўсім, хто гэтага жадае.

У сувязі з вялікім наплывам жадаючых арганізаваны папярэдні запіс на 1989 г.

# Курёзы

## ЗАСТРАХАВАНЫ ЯЗЫК

Прафесіянальны дэгустатар марожанага Джон Гарысан з Окленда (ЗША) застрахаваў свой язык на 250.000 долараў ад страты смакавай адчувальнасці.

## У КАЛЕКЦЫІ-ПЕЧКІ

Жыхар Мюнхена (ФРГ) Макс Вальдхаузер калекцыяніруе печкі. У яго калекцыі каля сотні экспанатаў, самы стары адносіцца да 1770 года, а самы новы — да 1900-га. Заўзяты калекцыянер знаходзіць печкі ў дамах, якія ідуць на злом, на звалках, купляе ў старызнікаў. Вальдхаузер сам рэстаўрыруе свае набыткі. Печкі з калекцыі здымаліся ў адным кінафільме і ўдзельнічалі ў тэатральнай пастаноўцы, дэманстраваліся на выстаўках.




**Калі лёс грукае да цябе ў дзверы, не прыкідвайся, быццам цябе няма дома.**



Фігуры, з выгляду ідэнтычныя, розняцца дробнымі дэталямі. Спалучыце цені з адпаведнымі фігурамі, а таксама пакажыце, якая з фігур не мае свайго ценя і які з ценяў не падыходзіць да ніводнай фігуры.